# Эстонскі голас

**Толькі зьнішчэньне бальшавізму забясьпечыць жыцьцё і бясьпечнасьць**

Вялікая эстонская штодзённая газэта «Эсты Соена» выступае на аснове дасьветчаньняў, якія бальшавікі зрабілі ў 1918 і 1941 гадох над эстонскім народам, супроць наіўнай думкі, што ў Савецкім Саюзе можа адбыцца зьмена, «Нават непапраўны аптымісты ня зможа знайсьці, што бальшавізм разьвіваецца ў кірунку жыцьцёвых формаў, якія магчыма было-б ужываць у чалавечым грамадзтве» — піша газэта. «Наадварот, на працягу 25 гадоў бальшавіцкі тэрор стаў яшчэ больш нястрымным, забойствы больш грубымі, а самавольства больш неўціхамірным. Калі гавораць аб адбудове нашага ўласнага нацыянальнага жыцьця і аб тым, што савецкая ўлада ня мае намераў помсты і эстонцам няма чаго баяцца бальшавікоў, то мы ня можам паверыць такому ператварэньню. Як ня імкнецца савецкая ўлада адпаведна патрабаваньням мамэнту часова замаскіраваць сябе, яна ня можа схаваць свой запраўдны твар. Не эвалюцыя бальшавізму, а яго зьнішчэньне забясьпечыць жыцьцё і бясьпечнасьць эстонскаму народу.»

---

# Адразу на капыл

Нямецкая прэса падае зацемку з карэспандэнцыі з Бэрна (Швайцарыя), што бальшавікі ажыцьцяўляюць сваю пастанову перамены дзяржаўнага ладу. Доказам гэтага зьяўляецца назначэньне ў Лёндане Карнейчука замежным камісарам Украіны.

Колькі у сабе зьместу мае гэты апошні сталінскі трык, і на колькі Карнейчук можа рэпрэзэнтаваць інтарэсы ўкраінскага народу, дожа сьветчыць факт, што да апошніх дзён ён быў заступнікам Молатава. Да гэтага, ён зьяўляецца мужам лідэркі польскіх камуністых у Маскве, Ванды Васілеўскай.

Гэтыя факты гавораць за сябе. Яны ярка паказываюць, якая розьніца між законам і праводжаньнем яго ў жыцьце. Дэклярацыі могуць быць выдаваныя ў найбольш прыгожым зьмесце і з найдалей паднятай гуманнасьцяй. Аднак Масква мае свае дасьветчаньні і выпрабаваныя мэтады. Яна іх ніколі не адрачэцца, і як-бы не старалася зьмяняць формы, зьмест іх застаецца той самы.

Сям'я Карнейчук-Васілеўская зьяўляецца ня менш пэўным і верным слугой Сталіна, як і шматлікая сям'я Кагановічаў і ім падобных. Яны ўсе верна трымаюцца Крэмля, як і наадварот, іх Крэмль.

Гэты хаўрус усіх цёмных сілаў, якім ня было месца ў межах сваіх народаў, у якой яны не выступалі-б форме, заўсёды будуць з агідай адкінутыя, і ацэнены як гадкія і нізкія халуі пэрфіднай бальшавіцкай Масквы.

# У некалькі радкох

★ Паводле афіцыйнага паведамленьня Рузвэльт адклікаў прадстаўніка ЗША пры ўрадзе польскіх эмігрантаў у Лёндыне — Антонія Байдль.

★ Нядаўна на эміграцыі ў Амэрыцы памёр былы летуўскі прэзыдэнт Антанас Смэтона, які туды выехаў яшчэ ў чэрвені 1940 году ў сувязі з заняцьцем Летувы бальшавікамі.

★ Англа-амэрыканцы прысудзілі да сьмерці 15 чалавек у Сыцыліі, якія абвінавачваліся за ўдзел у арганізацыі, якая мела на мэце адраджэньне фашызму.

★ Пры пажары стэпаў у Аўстраліі, у штаце Вікторыя паводле дасюляшніх зьвестак, загінула 18 асобаў. Больш 1000 дамоў былі спаленыя. Пры пажары згарэла 250 000 авечак, шмат жывёлы асьлепла. Тысячы ахвяраў, уцякаючы ад агню, перапоўнілі бліжэйшыя гарады. Вынікам стэповага пажару будзе значнае зьніжэньне здабычы воўны ў штаце Вікторыя ў 1944—45 годзе.

★ У вялікім жыдоўскім горадзе Палестыны Тэль-Авіве пачалася эпідэмія чумы. Крыніцамі эпідэміі зьяўляюцца брудныя жыдоўскія кварталы гораду і пошасьць косіць пакуль што толькі жыдоў.

★ У Эгіпце паводле афіцыйнае статыстыкі, ёсьць правінцыі, дзе 80% жыхарства — няпісьменныя. Але нават ў больш культурных правінцыях Эгіпту колькасьць пісьменных ня большая за 50%.

★ Уся Аргентына стаіць пад знакам жалобы з прычыны катастрофы землятрусу, якая наведала горную правінцыю Сам Суан ля падножжа Кардыльераў 15-га студзеня і зьнішчыла горад Сам Юан. Горад гэты налічваў 80 тысяч жыхароў. Паводле афіцыйнага паведамленьня 90% усіх дамоў разбураныя. Горад астаўся бяз электрычнасьці, вады і газу. Усе сродкі сувязі перарваныя. Газэты пішуць аб 1000 забітых і больш 7000 параненых. Аргентынскі ўрад выдаў загад аб дню нацыянальнае жалобы.

◆ «Прэм'ер-міністру польскае ўлады» Мікалайчыку, які хацеў паехаць у ЗША, каб «пабачыцца з прэзыдэнтам Рузвэльтам», адмовілі ў выдачы амэрыканскае візы на выезд.

# Мілітарная сытуацыя Нямеччыны

Пад якімі характэрнымі рыскамі працуе сучаснае нямецкае Кіраўніцтва вайны? Бясзумліўна яно стаіць пад агульным знакам як найдалей падуманае паўстрымлівасьці. Ад паўгоду ўжо ўстрымлівае Нямеччына найбольшую афэнзыву ворага на ўсходзе, ня страціўшы пры гэтым ані хвіліны супакою і раўнавагі. Адначасна Нямеччына змагла ў паўдзённай Італіі з надта невялікімі сіламі англа-амэрыканскую афэнзыву, пераменіць на «смаўжовую афэнзыву». Аднак і тут не лапушчана нічога, што было неабходным, а зрабілася ўсё, каб англа-амэрыканцам нанесьці самыя балючыя страты. Пры гэтым значная частка нямецкае арміі трымаецца ў рэзэрве. З гэтага ўсяго паўстае пытаньне, якое пятно выціснула дасюль на сытуацыю Нямеччыны гэтая стратэгія паўстрымлівасьці, якія карысьці з гэтага спадзяецца асягнуць Нямеччына і як гэтым самым утворацца суадносіны сілаў на будучае змаганьне.

### СТРАТЭГІЯ ВЫЙГРЫШУ ЧАСУ

Ведамы нямецкі спэцыяліст па справах вайсковых гэн. Діттмар у аднэй із гутарак з замежнымі журналістамі коратка заявіў, што сяньня мілітарная сытуацыя Нямеччыны бязсумліўна зьяўляецца болей карыснай чымся гэта было ў кастрычніку мінулага году. Нмецкая стратэгія, якая мела на мэце выйгрыш часу выразна ўзьдзейнічала на агульную сытуацыю.

**Стратэгія выйгрышу часу ў гэтым праяўляецца, што па пэўных прычынах чакаецца на зусім пэўную разьвязку.**

Нямеччына ў сваёй ваеннай падрыхтоўцы глядзіць далёка і дзеля гэтае разьвязкі мае і людзей і матар'ялу ў вялікім маштабе.

### ПРАБЛЕМА РЭЗЭРВАЎ

Калі-б сяньня нехта паставіў асабліва важнае пытаньне рэзэрваў, дык пакажэцца, што якраз нямецкая стратэгія найбольшае паўстрымлівасьці і ашчаднасьці пры выкарыстаньні людзей і матар'ялаў, сяньня мае на час сьпелыя плады. Нямецкія рэзэрвы, — казаў ген. Дзітмар: — зьяўляюцца сяньня рэлятыўна (ўзглядна) большымі чымся рэзэрвы бальшавіцкія, якія пры іхных натугах каб дасягнуць вырашэньня становішча, кідаючы ўвесь час у бой вялікія масы, вычарпалі людзей ня толькі старэйшага веку, але і малодшага. Характэрным зьяўляецца абніжаная якасная вартасьць бальшавіцкае пяхоты. Хаця маюцца яшчэ і надалей вялікія дзікія масы, якія бальшавікі кідаюць у бой, аднак, няма ніякага сумліву, што ступень іхнай вайсковае падрыхтоўкі, як і баёвай спраўнасьці, куды ніжэйшы чым гэта было ўсяго паўгоду таму назад.

### БАЛЬШАВІЦКІЯ СТРАТЫ

Тады, калі бальшавікі ў сваёй тактыцы тварэньня зьменных пунктаў цяжкасьці праводзяць гэта з надта вялікім накладам жывой сілы і матар'ялу, немцы абмяжоўваюцца толькі да гэтага, каб пры надта невялікім узмацненьні загароджанага адрэзку фронту толькі нанава апанаваць сытуацыю. Усюды зьяўляецца характэрным, што гэтае невялікае ўзмацненьне агульна ёсьць дастатковым, каб спачатку загрожаную сытуацыю апанаваць і зноўжа перабраць ініцыятыву ў нямецкія рукі.

Бальшавіцкія страты паводле прыблізных падлічэньняў ад пачатку афэнзывы ад 5-га ліпеня да канца 1943 г. складаюць 3 000 000 людзьмі. Не бярэцца тут пад увагу надта вялікі працэнт паўшых на савецкай старане, які таксама трэба далічыць, бо бальшавіцкае ваеннае камандваньне ў безнадзейных сытуацыях прымушае сваіх жаўнераў да бою. Нямецкія страты пры зацятых баёх адносна малыя, і яны ёсьць ніжэйшымі ад сярэдніх чымся гэта выкулькавала Нямецкае Галоўнае Камандваньне. Калі ідзе пра бальшавіцкія страты, дык паводле скантраляваных дадзеных з савецкае стараны яны пераносяць франтавыя папаўненьні.

### ЗАРЫЛІСЯ Ў ПЯСКУ

Іншай характэрнай рыскаю мілітарнае сытуацыі Нямеччыны на ўсходзе зьяўляецца факт, што ўсе дасюлешнія савецкія афэнзывы, праведзеныя з надта вялікім накладам жывой сілы і ваеннага матар'ялу, надта хутка зарыліся ў пяску. Бальшавіцкая тактыка тварэньня новых пунктаў цяжкасьці раз на адным, другі раз ізноў-жа на іншым адрыэзку фронту праўда, дазволіла ў самым пачатку ўсюды ім пайсьці наперад, аднак заўсёды нямецкія аддзелы, дзякуючы хуткай ператасоўцы сваіх сілаў, усе натугі ворага пасьпяхова паралізавалі. Ні ў адным месцы не ўдалося бальшавікам асягнуць большае апэрацыйнае праломкі ці акружэньня. Гібкія рухі нямецкіх аддзелаў, папросту стапняваньне фронту ў вышэйшым стылі, аказаліся выняткова скуткоўнымі сродкамі, каб стрымаць наймацнейшыя ўдары бальшавікоў.

Гэткім чынам, нямецкая стратэгія адвароту ў цэласьці, як і нямацкая тактыка ў паасобных абаронных баёх, на ўсходзе, апраўдалася на цэлай лініі і дала Нвмеччыне шмат вартасных сродкаў і магчымасьцяў да будучых баёў.

На спатканьне інвазыі ворага ў Эўропе Нямеччына мае паважна падрыхтаваную колькасьць войска, якое мераючы людзкой масай і ваенным матар'ялам будзе дастатковай сілай. Калі толькі некалі-б заснавала патрэба ўзмоцніць гэтыя рэзэрвовыя аддзелы, станецца гэта бяз аслабленьня на фронце.

---

### НА ЦІХІМ АКІЯНЕ

Як падае прэса за апошнія дні, ужо ад даўжэйшага часу трываюць зацятыя баі ля Маршальскіх выспаў. Паведамленьне з Токіё ад 7. 2. падае аб затапленьні аднаго варожага крэйцэра. Гэтаксама падае аб састрэленьні 92 самалётаў, якія ў дні 3 і 4 лютага наляталі на Рабаўль.

---

Л. РАДЗІМІЧ:

# ЧАБОР

**(Апавяданьне)**

Чалавека можна абнізіць нагэтулькі, што ён звыкнецца із сваім станам, згорбіцца, скамянее, шточасіны гатовы будзе прыняць найцяжэйшыя ўдары лёсу. Але чалавека нельга зрабіць машынаю, аўтаматам: у глыбіні ягонае душы заўсёды будзе тлець пачуцьцё супраціву, якое можа бяз дай прычыны разгарэцца зыркім полымем. Не загасіць тады яго ніякім катам думкі чалавечае: шуганець яно пад самыя хмары, пакажа дарогу да шчасьця і праўды.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1940 год. Восень. Дрымучая паўночная тайга. На расьцярэбленай прагаліне разьмешчаныя баракі. У іх начуюць зьняволеныя, сасланыя сюды з усіх канцоў краю. Удзень — ад сьвітаньня да познага вечару — яны працуюць у лесе, не разгінаючы сьпіны.

Глухое імглістае сьвітаньне. З баракаў выходзяць, як сьцені, людзі. Імжыць дождж, прабіраючы іх да касьцей. Азызла, холадна. Па топкай дарозе трэба брысьці ў тайгу, пілаваць аж да адзервяненьня рук тоўстыя дрэвы, каб пазьней, па саннай дарозе, сьцягнуць бярвеньне на сабе да ракі, а ўвесну сплавіць іх кудысьці ўніз, туды, дзе будуецца «соцгорад». Там некалі будуць жыць здаровыя, загарэлыя дзяцюкі, пульхныя і крамяныя дзяўчаты, а тут, на месцы «загатоўкі» будаўлянага матар'ялу для «соцгораду», будуць ляжаць косьці дрывасекаў...

Нізкае, над самымі верхавінамі дрэў, неба. Дождж. Людзі ўздрыгваюць, паціскаюцца. Постаці іхныя згорбленыя, твары завойстраныя, зямлістыя. Шмат хто кульгае. На нагах у іх — лапці або анучы, завязаныя аборамі. Калі яны ступаюць, абапал дарогі ляцяць пырскі грязі, ад якіх грэбліва староняцца вартавыя.

Нудна, павосенску, стогне тайга. Колькі год угрызаюцца ў яе катаржнікі, а яна ўсё шуміць і шуміць, не зважаючы на іхныя турботы. Ад іхнае пякельнае працы і знаку ня відаць на ёй: глухая, дрымучая, бясконцая, яна чакае ў свае нетры шмат будучых пакаленьняў. Усім яна дасьць дом і дамавіну, усіх прыгалубіць і супакоіць. Дываны ёйных імхоў служаць за пасьцель багна і дрыгва балотаў — за калыску. Як крывасмок які, хапае яна людзей ува ўсіх кутков краю, цягне, быццам магніт той, у свае неабдымныя прасторы, каб выцягнуць з іх жылы і поджылкі. А дзеля чаго, навошта? Яна і сама ня ведае. Так было спакон вякоў, так будзе...

Мерна, як нейкая вялізманая машына, крочыць шэра-зямлісты натоўп. Паперадзе, крайні зьлева, ідзе Карцэвіч. Некалі ён быў за настаўніка на вёсцы, вучыў дзяцей, любіць свой край; цяпер, быццам аўтамат той, месіць сібірскую гразь, церпіць холад і голад, ня бачачы ніякага пробліску ў будучыні. Калі-б запытацца ў яго, за што ён пакутуе, ён усьміхнуўся-б і пацісну́ў плячыма. Там, за тысячы кілёмэтраў, ляжыць ягоны край, поўны красы і прывабы. Палкім, няўміручым каханьнем любіць ён той край. Але каханьне, як полымя, пякучае. Яно і абпаліла яго. Тысячы ягоных пабрацімаў засталіся там, у далёкім краі. Шмат каго з іх чакае такі-ж самы лёс. Мінуць яго толькі тыя, хто мае халодную кроў, духовую спустошанасьць або жывёльную прагнасьць да жыцьця.

Вось і дзялянка № 27 лясное дачы № 11. Натоўп прыпыніўся. Кароткая праверка, а потым зычны голас:

— На работу — разы-ы-ыдзісь!

Падзяліўшыся — ў лес. З кажнай брыгадай ідуць два вартавыя.

Карцэвіч, прыпыніўшыся ля хвоі, зірнуў угару. Стромкая, роўная, прыгожая, яна ўпіралася ў самае неба. Хутка яна з шумам і гулам паваліцца на зямлю. «От так і жыцьцё наша»... — раптам паўстала параўнаньне. Размахнуўшыся, ён ударыў сякерай па камлі. Яшчэ раз, яшчэ... Стаміўшыся, ён перадаў сякеру свайму напарніку дзядзьку Архіпу. Прысадзісты, круглаваты, ён некалі быў асілкам. «На ўсё сяло ішоў на кулачкі», — хваліўся Архіп. Цяпер ён саслабеў, зьнясілеў. Цынга з работы, ён паваліўся, не распранаючыся, на нары і заснуў. А сяньня, устаўшы, зьдзіўлена праказаў да Карцэвіча:

— Міхал, га Міхал... Што-ж гэта?

Карцэвіч глянуў у ягоны бок. Архіп стаяў ля дзьвярэй і разглядаў нешта на сваіх загрубелых далонях. Вочы ягоныя міргалі, пальцы дрыжэлі. Падыйшоўшы бліжэй, Карцэвіч пабачыў у Архіпавых руках зуб.

— О, у дзядзькі Архіпа яшчэ ўся маладасьць наперадзе! — засьмяяўся Карцэвіч: — малочныя зубы выпадаюць...

— Быў конь, ды зьезьдзіўся, — глуха праказаў Архіп. — Каб маім ворагам такая моладасьць!.. Сьмерць выбівае касою зубы — от што гэта! Не жыхар я на гэтым сьвеце. Памру, братка... Быў дуб, ды адубеў, — горка дадаў ён, уздыхнуўшы. — Ат! — раптам выгукнуў Архіп, моцна вылаяўшыся, і кінуў з усяе сілы вобземлю зуб.

Моўчкі, на нікога не пазіраючы, глыбока затаіўшы ў сэрцы крыўду, ішоў Архіп разам з усімі ў лес. Моўчкі ўзяў ад Карцэвіча сякеру і з нейкаю лютаю злосьцяй накінуўся на хвою. Быццам, яна, гэтая сібірская хвоя, была вінаватая ў ягонай долі. Гулка разносіліся ўдары ад сякеры, борздка разьляталіся ўва ўсе бакі трэскі. Аж ямкі выбіў нагамі дзядзька Архіп — так натужваўся ў рабоце. Падсекшы, колькі трэ было, пачалі пілаваць. І тут злосьць не пакінула — так шпарка цягаў ягоны напарнік пілу. Каб лепей было пілаваць, Архіп усеўся на зямлю і, ўзяўшыся за ручку пілы аберуч, шпарка цягаў яе ўзад-уперад. Хвоя калыхнулася, хруснула.

— Вымай! — крыкнуў Карцэвіч.

Але Архіп ня даў вымаць пілы і з новаю сілаю правеў ёю на дрэву колькі разоў. Хвоя трэснула, як-бы абарвалася што ў яе ў сярэдзіне, і пачала падаць. Дрывасекі, выхапіўшы пілу, адскочылі. Хваёвыя сукі чапляліся за іншыя дрэвы, трашчэлі, ламаліся, — з гулам і грукатам пракладала хвоя апошнюю дарогу сабе. Раптам яна ўперлася ў другое дрэва. Грукат сьціхнуў. Толькі патрэсквалі і лопаліся, як туга нацягнутыя вяроўкі, сукі і галіны.

— А ну, другую!.. — выгукнуў Архіп, падбегшы да другое хвоі, на якой засела першая.

— Заб'е, — перасьцярог Карцэвіч.

— Толькі і бяды! — махнуў рукою Архіп, зноў моцна вылаяўшыся.

Карцэвічу зрабілася абыякава. Абыякава тайга, гэтыя хвоі, вартавыя, пілы, сякеры, гэты нізкі, каржакаваты чалавек, які спаганяе сваю непагаслую злосьць на дрэвах. Хапелася плюнуць на ўсё і пайсьці ўглыб тайгі. «Уцяку — спакой, куля дагоніць — спакой». Увесь навакольны сьвет, нават сваё жыцьцё — абыякавыя, чужыя. «Пілаваць дык пілаваць», — мільганула ў галаве ў Карцэвіча, калі ўзяўся за ручкі пілы, каб сьпілаваць другую хвою, на якой засела першая.

Бяздум'е і абыякавасьць ува ўсёй істоце. Чуваць, як роўна ходзіць узад-уперад піла, панура шуміць дрымучая тайга, абыякавая да людзей і іхных пачуцьцяў. З ненажэрнаю лютасьцяй угрызаецца ў дрэва піла, з незагаслаю злосьцяй сочыць яе Архіп. «От так — бы ўзяў і перапілаваў увесь сьвет напал»... Перад ягонымі вачыма ўстае вёска, сям'я. «Дзе мае родныя, дзе мае дзіцяняткі? Мо і яны заходзяцца ад холаду і голаду, як і я ў тайзе? Эх, рэж піла, угрызайся ў хвою! Дзед рабіў на паноў, бацька на вайне загінуў, сам тры гады ў палоне прабыў... За што? Каб занесьці косьці на поўнач дзікім зьвяром. Вораг!.. Бульбы не завёз да тэрміну на бровар, каб яна згніла там у капцох, а потым гарэлкі нагналі з яе, каб напаіць яго, Архіпа Мацьвейчыка, саракаградуснай... А ладна-б цяпер выпіць чарку, каб боль суцішыць у зубах... Шчыміць у дзяснах, ірве... І цыбуліны днём із агнём ня знойдзеш тутака. Цыбуля, кажуць, памагае добра!»

Яшчэ не дапілавалі да палавіны, як хвоя трэснула і загула. Карцэвіч, не разгінаючыся, кінуўся ў бок. Архіп, падскочыўшы, таксама пабег. Крышачы ўсё на сваім шляху, абедзьве вялізныя хвоі гулка грох-

# Над усё на сьвеце мілаваў красу і дабро

(Пасьмертны ўспамін па мастаку А. Карнею)

1-га сьнежня 1943 г. мінулі ўгодкі ад дня сьмерці мастака партрэтыстага і пейзажыстага Адварда Карнея, які быў сябрам Торнскага Беларускага Камітэту Самапомачы.

Адыход ад нас мастака і чалавека такое меры нельга прамінуць маўчаньнем і аддаць на забыцьцё. Дык-жа хочацца хоць цяпер, на ўгодкі сьмерці, даць жменю фактаў з біяграфіі і кароценькую характарыстыку мастака.

Сьвятое памяці Адвард Карней нарадзіўся 24-га кастрычніка 1890 г. у Вільні. Там і скончыў ён агульную адукацыю і школу маляваньня прафэсара Рыбакова. Вучыцца ў Акадэміі Мастацтва перашкодзіла яму сусьветная вайна і ня зусім добрыя матар'яльныя абставіны, хаця малады Адвард ужо ад раньніх гадоў паказваў вялікае замелаваньне і здольнасьці да мастацтва. Бацька аднак крытычным вокам пазіраў на сынавыя пачынаньні і раіў яму зусім іншыя, больш практычныя заняткі.

Ніводзін бацька не жадае нічога благога сваім дзецям. І тут із боку бацькі была толькі памылка, няпоўнае зразуменьне душы маладога сына. Але маці сваім сэрцам і інстынктам жанчыны згадала, зразумела, што мозаг і душу ейнага сына Бог асьвяціў іскрай таленту, і не памылілася. Ейныя добрыя чыны і пяшчотныя словы пазьней, у часіны змаганьня з усялякімі перашкодамі дадавалі сыну бадзёрасьці і лагодзілі боль ягонага сэрца, бо яно ўжо рана пазнаёмілася з пакутай. Бацькава няпрыхільнасьць да імкненьняў сына і нястача матар'яльных сродкаў можа ў кажнага адбіць ахвоту і, гэтак кажучы, духова стэрарызаваць. Але добра ведамая ўпорыстасьць, вытрываласьць і бяспрыкладная працавітасьць усіх тых, каго выдала на сьвет Беларуская Зямля.

Малады Адвард Карней не прыставаў у працы, адукаваўся сам і, хаця цяжка, але ішоў сваёй дарогай да дарагое мэты. Тымчасам з ім пазнаёміўся і зацікавіўся бліжэй ягоным талентам слаўны мастак і адначасна прафэсар факультэту прыгожага мастацтва пры ўнівэрсытэце ў Вільні Людамір Сьлендзінскі. Прафэсар заняўся ім асабіста сам і пад ягоным кіраўніцтвам, супольна з ім і працаваў мастак.

Супольная праца мастака з прафэсарам трывала да 1921 г. Ад 1921 да 1924 году мастак пісаў дэкарацыі для опэры, апэрэткі і драмы ў Вялікім Віленскім Тэатры на Пагулянцы. Ад 1924 г. ён маляваў пераважна партрэты.

У 1926 годзе мастак перажыў вельмі балючы ўдар лёсу, пахаваўшы свайго першага і найлепшага прыяцеля — Маці. Бацька ажаніўся другі раз і закончыў сваё жыцьцё ўжо ў часе цяперашняе вайны.

У 1930 годзе творы мастака былі выстаўлены на гэтак званай акруговай выстаўцы бадай ува ўсіх заходніх дзяржавах. У 1932 годзе мастак асяліўся на сталае пражываньне ў Торне і працаваў тут, як тэатральны дэкаратар, да 1934 г. Праз увесь гэты час мастак жыў у вельмі цяжкіх матар'яльных абставінах, бо тэатр тады, блізу заўсёды працаваў з дэфіцытам.

Цяжкія абставіны жыцьця, вечныя матар'яльныя нястачы, нягігіенічнае памешканьне, а наверх — сыстэматычнае перапрацоўваньне — зрабілі сваё, у 1936 годзе у мастака аб'явілася цяжкая хвароба лёгкіх.

Колькі год перад вайной і ў часе вайны мастак меў ужо ладна лепшыя абставіны жыцьця, але зьнішчаны хваробай арганізм ужо цяжка было давесьці да ладу. Сухоты ўжо разьвіліся задалёка, здавала і сэрца.

Спыніўшы працу ў тэатры, мастак пачаў ізноў маляваць партрэты, пэйзажы і рысаваць сангвінам. Ён хацеў, як і кажны, зрэшты, артысты, маляваць усё тое, што яго захапляла, што было запраўды поўнае красы, а тымчасам штодзённае жыцьцё ўціскала яго ўцесныя рамкі маляваньня на заказ. Пачуцьцё гэтага было надта цяжкім для мастака. У маляваньні пэйзажаў быў ён крыху калярыстым і імпрэсыяністым, але ў галіне партрэтаў — заўсёды суровым клясыкам.

У асабістым жыцьці сьв. памяці Карней быў простым, таварыскім, ніколі не выяўляў ніякага эгаізму. Як чалавек вельмі шырокага духовага дыяпазону, ён заўсёды жыў у бязупынным шуканьні рэчаў нязвычайных, цяжкіх, артыстычна цікавых, і пры гэтым быў вельмі працавітым. За кажную працу ён браўся з вялікім новым імпульсам. Маючы мэтрычна 52 гады, а біялёгічна яму можна было даць найвышэй 40 гадоў, так молада выглядаў ён, бо ягоны твар быў заўсёды адухоўлены нутраным агнём мілаваньня дабра і красы. Сардэчным лятуценьнем у жыцьці мастака было паехаць у замежныя старавечныя дзяржавы і там насыціць свае вочы і душу цудамі, вычараванымі старымі клясыкамі, каб гэтым артыстычным перажываньнем узбагаціць яшчэ больш сваю веду і ўяўленьне, зачэрпаць болей сілаў, нат жыцьцёвых, із крыніцы несьмяротнае, чыстае, непрамінальнае красы. Да гэтае мэты ён не дайшоў, падзяліўшы гёс мастакоў, якімалые ужо ці мала адыйшло на працягу стагодзьдзя ў падобных абставінах.

Ад часу, як захварэў на лёгкія, мастак часта казаў: «Гэтыя дрэвы, што лісьцём зялёным строяцца што-вясны — ужо не мае, і прыгожыя, чароўныя краскі-дываны красак — ужо таксама не мае...». Ён стараўся заўсёды быць вясёлым, але праз вясёласьць прабіваліся часам сумныя ноткі. Ды дарма ніколі нінавошта ён не наракаў, ня жаліўся. Бываюць людзі, якія, носячы ў сэрцы боль і тугу, умеюць яшчэ расьсяваць навакол сябе праменьне бадзёрных усьмешак і словаў. Такім быў і сьв. памяці мастак Карней. Ён вельмі мала рупіўся аб сабе, аб собскім здароўі, так шмат працуючы.

Усе свае лепшыя сілы сьв. пам. Карней на служэньне красе, мастацтву. Ягоныя творы поўныя тыпова клясычнае прасьціні суровсе павагі. Да гэтага далучаецца дасканальная назіральнасьць і магутны ў сваёй сьцісласьці рысунак. Усе яны выражаюць супакой і клясычную ўмеркаванасьць, а таксама дакладную форму і вельмі яснае мадэляваньне. Адчуваецца, што мэтаю, ідэалам мастака была клясычная прасьціня і краса. Выдатны ягоны партрэт свае маці. Які супакой і дабрыня на гэтым твары! Як добра падлавіў мастак мамэнт, калі даці з такой радаснай любасьцьцяй пазірала на яго, і здаецца, што з гэтага палатна вось-вось загучаць пяшчотныя словы — такое моцнае дзеяньне гэтага абраза, такая вялікая магія, поўнага, скончанага артызму ў мастака і ягоным каханьні да маці.

Дарма, што мастак быў хворы на сухоты, лекары казалі, што ён жыў-бы з імі яшчэ даўгія гады, калі-б ня сэрца. Сэрца закончыла працэс жыцьця, бо было ўжо надарванае. І мастак дачасна скончыў хыцьцё а другой гадзіне ўначы з 30-га лістапада на 1-га сьнежня, у часе, калі восень закончыла свае сумныя песьні аб мінулай вясьне, калі з дрэваў апала на зямлю апошняе лісьце... Адыйшоў, калі творчасьць ягоная сталася поўнай, багатай. Але не, не адыйшоў увесь, бо дух ягоны будзе жыць вечна ў творах, якія ён пакінуў па сабе.

Пахаваны мастак здаля ад свае радзімы, абставіны ваеннага часу не давалі ніякіх магчымасьцяў аддаць яго той зямлі, якая ўзгадавала гяо сваімі сокамі і абдаравала велічай таленту. Але, як скончыцца вайна дамавіна мастака павінна быць перавезеная ў ягоную так каханую Вільню. Няхай там, над ягоным магільным курганам шумяць радзімыя бярозы, гайданыя лёгкакрылым ветрам, хай мігацяць бурштыновыя зоркі, хай грэе жыватворчая цяплыня сонейкавых косаў.

---

Лекар сказаў: «Памёр». Людзі паўтарылі: «Памёр...». Гэтак кажуць усе цывілізаваныя народы, але эскімосы, паводля нас дзікуны, ніколі ня скажуць, што нехта памёр, а толькі заснуў. Іхнае лагодна-філёзафічнае азначэньне як нельга лепш пасуе да сьмерці нашага мастака. Сьмела можна сказаць, што ён заснуў, занурыўся ў вечны сон, бо ўва ўсей ягонай пастаці і ў рысах твару ня было ніякага змаганьня ці страху, а толькі глыбокі, усё разумеюцы ссупакой. Ён заснуў. Яго ўжо ня трывожаць ніякія адгалоскі і рыданьні нашае беднае зямлі, нашыя дробныя справы й чыны. Дух ягоны зьліўся зь вечнасьцяй і там знайшоў свой вечны, трывалы быт. Для яго ўжо не загадка тое, над чым дарэмна галовяцца цэлымі стагодзьдзямі найвыдатнейшыя філёзофы, даходзячы, толькі да аднаго выснаву: «Ignoramus et ignorabimus». Для яго ўжо адчынілася заслона гэтае містэрнае таямніцы-загадкі. Дух ягоны заўсёды вельмі багаты й творчы, — узбагаціўся найвялікшым пазнаньнем із пазнаньняў і вітае ў паднебных шляхох між раньніх і вячорных зораў... А мы ўсе яшчэ далей вытрывалыя падарожныя нашага земнага вандраваньня, і нашым людзкім сэрцам баліць гэтая вялікая страта. Тут, на зямлі, хвалі сіберныя, бурлівыя, часта так моцна й балюча білі ў човен ягонага жыцьця — там, у супакоі, у прасьветным супакоі, — жыве вечна!

**Марыля Даноўская**

---

## АД НАШЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў ВАРШАВЕ

Культурна-грамадзкае жыцьце сярод нашай беларускай калёніі ў Варшаве не замірае, хоць навонкі можа здаецца, што яно крыху прыціхла ды звузілася да пэўнага толькі кірунку, ведамага з свайго аўтарэклямаванага запалу...

Прыкладам, **сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня** — 21-га лістапада 1943 г. адбылася ўрачыста з вялікім патрыятычным уздымам, выкліканым сьвежымі геройскімі ахвярамі, што палі ад людаедзкай рукі палітычнага бандытызму. Раніцаю нятолькі ў царкве, але і ў касьцеле, адбыліся ўрачыстыя набажэнствы з палкімі прамовамі. Увечары была наладжана акадэмія з дакладам, хорам і дэклямацыямі. Акадэмію асабліва ажывіла выступленьне сьвежа ўцёкшага ад апошняй бальшавіцкай інвазыі случчаніна, даклад якога аб перажытым у савецкім «раю» некаторыя прысутныя слухалі са сьлязьмі ў вачах.

**9-га студзеня 1944 г.** на камітэцкай сцэне **ставілася камэдыя** У. Галубка «Суд».

**23-га студзеня** ў беларускай школе і інтэрнаце была **ладжана ёлка,** пасьля якое «Мікалай) раздаў падаркі дзецям. Мастацка абдуманая праз узгадаваўцаў і выкананая праграма выклікала ў прысутных дзяцей і бацькоў вельмі вясёлы і радасны настрой.

**30-га студзеня** на камітэцкай сцэне **ладзілася дзіцячая каляднaя імпрэза,** якая прайшла вельмі ўдала. Шматлікая, як заўсёды, публіка разыходзілася дамоў з паднятым настроем ды мацнейшай верай у сілу роднай культуры і асьветы.

Крыху толькі не ўпапад была вызначана дата гэных імпрэзаў, якіх фактычна дзеля гэтага нельга і назваць «сьвяточнымі». Куды лепш был-б, калі-б яны адбыліся своечасов, у агульным абычаёва-сьвяточным настрої. Тое самае трэба і сказаць пра моцна спозьненыя ў нашай школе, дзе 85% каталіцкіх дзяцей, калядныя канікулы, якія былі чамусьці вызначаныя ад 6-га да 20-га студзеня.

---

нуліся на зямлю. І ў гэты мамэнт нехта прарэзьліва крыкнуў... У Карцэвіча мароз прайшоў па сьпіне. Ён скочыў да хвояў. На зямлі, распасьцёршы рукі, ляжаў Архіп. Із роту ішла кроў. Карцэвіч схапіў яго, за плечы, прыўзьняў. Архіп яшчэ дыхаў. Цяжка, як замораны конь, ён удыхаў у сябе паветра, і кроў булькала ў ягоным горле. Карцэвіч трымаў ягоную галаву на сваіх каленах і выціраў кроў хусьцінкай. Архіп пачаў дыхаць часьцей. Раптам цела ягонае напружылася, ён расплюшчыў вочы, дзіка павёў імі навакол і нешта загаварыў. Карцэвіч не разабраў ягоных слоў. Потым Архіпава цела абвяла, галава зрабілася цяжэйшай. Архіпа нястала.

Усё гэта адбылося ў адну хвіліну. Карцевіч не пасьпеў апамятацца. Апаламанелы, ён сядзеў у нейкай нязручнай позе ля Архіпавага цела і трымаў ягоную галаву на сваіх каленах. У галаве ў яго стаяў туман. Рабіў ён усё мэханічна, як у няпрытомнасьці. На зямлі ляжаў нежывы чалавек, ля яго сядзеў застыглы чалавек. Із гэтае застыгласьці вывёў яго прарэзьлівы сьвіст, а потым вокліч вартавога:

— Устаць!

Карцэвіч мэханічна ўстаў.

— Напра-а-а, арш! — скамандаваў вартавы.

Карцэвіч падумаў крыху і пайшоў, як здавалася яму, направа.

— Напра-ва-а, арш! — зычна выгукнуў вартавы.

Карцэвіч, жадаючы паправіцца, пайшоў у другі бок.

— Напра-а-а, арш! — нема выкрыкнуў вартавы.

Карцэвіч спыніўся. Ён спыніўся якраз каля пня той хвоі, якую яны з Архіпам калядзе сьпілавалі. Тут-жа ляжалі сякеры і дзьве пілы. «Чаму дзьве пілы? — падумалася Карцэвічу. — У нас-жа адна была... адна піла», — паўтарыў сабе Карцэвіч, ніяк не дадумаўшыся, што піла магла паламацца, калі падала хвоя. «Дзьве пілы... адна піла»... — таўклося ў ягонай галаве, а ўвушшу зьвінела і гуло нешта чужое, далёкае. На сэрцы было холадна, абыякава.

Разгневаны вартавы падбег да Карцэвіча і ўдарыў прыкладам па галаве. Вартавы, паводле закону, павінен быў весьці ссыльнага, затрыманага на месцы злачынства, да начальніка, а ссыльны пачаў ўпірацца. Ён, зноў-жа паводле закону, меў права нават страляць у ссыльнага. Вартавы гэтага не зрабіў. Ён ужыў прымусовую сілу. Ссыльны ўпаў. Вартавы з чыстым сумленьнем выканаў свой сьвяшчэнны абавязак. Пакінуўшы ля ссыльнага свайго заступніка, ён пайшоў да начальніка.

Туман у Міхасёвай галаве расьсеяўся. Навакол зрабілася ясна і прыгожа. Тонкія камлі соснаў залітыя сонцам. Яны, як мядзяныя. Барвовыя водблескі граюць на іх, дзіўна зьмяняючы лес. Сосны — як калёны. Карцэвіч стаіць на ўзгорку, зарослым верасам, і глядзіць на захад. Неба ўсё ў вагні. Палаюць хмары, быццам падпаленыя чыёйсьці рукой. Гэта тыя самыя болакі на краю зямлі, за якія бабы хаваюць пранікі. Дайсьці-б да іх — і можна трапіць на неба. А на небе, высока над грэшнаю зямлёю, іншыя законы і звычаі:

Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

Карцэвіч прачынаецца. Ён із зьдзіўленьнем бачыць сябе на зямлі. Трэба ўстаць, нешта зрабіць, нешта сказаць. Ах нестае змогі. Так хораша ляжаць на зямлі. Трава перад вачыма... І пах... Што гэта за пах? У памяці паўстае зыркі летні дзень, стромы бераг Дняпра, шырокі прастор лугоў, дубы на лугох... Дубы, як асілкі, уздымаюцца адзінотна на лугох, а паміж іх цячэ Дняпро — шырокі, сіні, чысты Дняпро-Славуціч. Побач з імі яна, ягоная будучая жонка. Тады ён ня ведаў, што пабярэцца з ёю; знаёмству іхнаму было месяцы два-тры; ён прыехаў у ціхі паветавы гарадок, каб пабачыцца з ёю. Ён сустрэў яе на вуліцы. Як яна зьдзівілася і спалохалася! Гэтая часіна застанецца ў яго на ўсё жыцьцё. Ейны позірк, даўгія вейкі, шчасьлівая ўсьмешка на вуснах, і радасьць, і спалох. Ад гэтае часіны іхнае знаёмства сталася нечым большым. Яны хадзілі па ваколіцах гарадка, па лясох і палёх, доўга гутарылі, часьцей маўчалі. От яны сядзяць на стромым беразе Дняпра. Блакітная далячынь прад імі. Сіняя рака плыве на паўдня. Ласкавае сонца апаўдні. Іхная блізіня перамешаная пахамі чагось водарнага, хмельнага. Што гэта пахне так востра, аж круціцца галава? Ад аднаго ўспаміну заходзіцца сэрца. Высокі бераг, кусты на ім, пах... пах чабору!.. Так, гэта чабор кружыць галаву; гэта ён уліў у сэрца радацьць і дужасьць; гэта ён, пахуча-душмяны чабор, аднавіў, як жывую радзіму — зялёную, баравую, жытнюю Беларусь.

Як зачараваны, Карцэвіч углядаецца ў дарагія сэрцу краявіды, поўныя нявыказнае тугі і хараства. Раўчук бяжыць па камянчыках, а над ім зьвесілі шаты маліны, каліны, ажыньнік. Бор шуміць спрадвечную песьню, і сэрца замірае ад ягонага шуму. Сяляне, пабліскваючы косамі, ідуць на касавіцу. Жнеі, вяртаючыся з поля, пяюць тужлівую песьню. Хлопцы едуць на начлег... Сьпякота; авечкі зьбіліся пад ёлкі; Міхась прыпаў да крынічкі і п'е сьцюдзёную ваду...

Карцэвіч углядаецца ў родныя абразы і адчувае, як цела ягонае поўніцца сілай, дужасьцяй, імкліваю прагнасьцяй да жыцьця і змаганьня. Якія-б ні былі пакуты, яны яму ня страшныя: ён, як старавечны гэрой Антэй, моцна стаіць на зямлі, і нікому не адарваць яго ад яе. Вусны Карцэвіча міжвольна шэпчуць:

О, Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет!..
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнабыльлём не зарасьцеш!..

Усёю істотаю, усёю сваёю духоваю існасьцю ён зварачаецца, як да маці, да свае Бацькаўшчыны, да ейных людзей, сваіх кроўных суродзічаў:

«З табою, Беларусь, буду ісьці побач, прыйму тваё гора і пакуты; з табою, Беларусь, выйду на лепшую дарогу жыцьця! Вышэй галаву, браты! Цьвярдзей крок, любыя!»

Туман расьсеяўся, усё зрабілася ясна і проста. Карцэвіч расплюшчыў вочы. Насупраць сядзеў, паклаўшы нага на нагу, вартавы. Каля дрэва стаяла стрэльба. Вартавы быў абыякавы. Ён, здавалася, дрымаў. Карцэвіч насьцярожыўся. Рукі яго задрыжалі. Як спружыновы, ён падскочыў, хапіў стрэльбу і кінуўся ў тайгу. Вартавы стрэліў із нагану. Карцэвіч схіліўся за дрэва, ляснуў замком, прыцэліўся і спусьціў курок. Вартавы прысеў на зямлю. Здалёк данесьліся сьвісткі, крыкі, стрэлы. Ня ўслухоўваючыся, Карцэвіч бег па тайзе, моцна трымаючы ў руках стрэльбу. Крыкі аддаляліся, слабелі. Тайга прыймала ў свае суровыя абдымкі ўцекача, які перастаў быць абыякавым.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За свой кароткі век я бачыў шмат крыўды і пакуты людзкой. Я бачыў, як здаровыя мужчыны за месяц рабіліся падобнымі да сьценяў: рукі і ногі ў іх апухалі, твары сінелі, і яны паміралі з голаду. Я бачыў, як застрэлілі маладога зьнясіленага дзяцюка за тое, што ён хістаўся, калі нёс насілы із цэглаю. Я бачыў, як маці закрывала сабою дзіця, баронячы яго ад куляў.

Міжволі паўставала думка:

Людзі часьцей за ўсё із пакораю ставяцца да сілы. Яна выклікае ў іх жах і паралiжуе дзейнасьць.

Але разам із тым я бачу тысячы іншых фактаў, іншых учынкаў людзкіх. Гэтыя факты і ўчынкі абуджаюць другую думку — дзейную, крылатую.

Чалавека можна абнізіць нагэтулькі, што ён звыкнецца із сваім станам, згорбіцца, скамянее, штохвіліны будзе гатовы прыняць найцяжэйшыя ўдары лёсу. Але чалавека нельга зрабіць машынаю, аўтаматам: у глыбіні ягонае душы заўсёды будзе тлець пачуцьцё супраціву, якое можа бяз дай прычыны разгарэцца зыркім полымем. Не загасіць тады яго ніякім катам думкі чалавечае: шуганець яно пад самыя хмары, асьвеціць аблітую крывёю зямлю, пакажа дарогу да шчасьця і праўды.

